***«Калі мы перастанем дыхаць – мы памром. Калі мы перастанем змагацца з ворагамі – увесь сусвет памрэ».***

**Цытата з фільма «Касабланка»**

1. ПЕРАСЛЕД, ПРЫСУДЫ, КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА
2. ЖЫЦЦЁ Ў НЯВОЛІ
3. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ І КУЛЬТУРНЫ АКТЫВІЗМ
4. ГАЛАСЫ АСОБАЎ
5. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ
6. ПАВІНШУЙЦЕ ПАЛІТВЯЗНЯЎ З ДНЁМ НАРАДЖЭННЯ

**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце кампанію Save Our Songs**

# 1. ПЕРАСЛЕД, ПРЫСУДЫ, КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА

**Марыі Калеснікавай** прысудзілі 11 гадоў абмежавання волі, **Максіму Знаку** – 10 гадоў. Іх прызналі вінаватымі па трох артыкулах Крымінальнага кодэкса: змова з мэтай захопу ўлады, заклікі да дзеянняў, скіраваных на прычыненне шкоды нацыянальнай бяспецы, стварэнне экстрэмісцкага фарміравання альбо кіраўніцтва ім.





Адбылося затрыманне ўдзельнікаў фэсту «**Аршанская бітва**», які ў апошнія гады праводзіцца або падпольна, або без шырокай рэкламы. **Юрку Копціка** – шматгадовага арганізатара фэсту, аршанскага краязнаўцу і журналіста, і яшчэ дваіх асудзілі на 10 сутак адміністратыўнага арышту.

Супрацоўнікаў культцэнтра «Корпус» пакаралі суткамі за непадпарадкаванне міліцыянтам: **Аляксандра Багданава** і **Максіма Крука** арыштавалі на 10 сутак, а **Лізавету Неўмяржыцкую** — на 8 сутак.

**Вадзіма Ермашука**, блогера, асудзілі яшчэ на 15 сутак – у дадатак да 25, якія ён адбывае з 19 жніўня.



**Алесю Мінаву**, маладому літаратару і настаўніку беларускай мовы і літаратуры, прад'яўлена абвінавачванне па частцы 1 артыкула 342 КК Рэспублікі Беларусь (арганізацыя групавых дзеянняў, якія груба парушаюць грамадзкі парадак і звязаныя з яўным непадпарадкаваннем законным патрабаванням прадстаўнікоў улады, і ў актыўным удзеле ў такіх дзеяннях).



**Вікторыю Лёвіну** пакаралі штрафам 2320 рублёў (80 базавых) за валасы, пафарбаваныя ў бел-чырвона-белы.

Ліквідуецца **ICOMOS** – арганізацыя, якая ў Беларусі займалася захаваннем помнікаў гісторыка-культурнай спадчыны.

**Аляксея Бусла**, гукарэжысёра і музыку гурта Favourite Mirror, затрымалі раніцай 9 верасня падчас «хапуна» на дваравым маршы ў мінскай Кунцаўшчыне. Яго збівалі пасля затрымання і каталі электрашокерам, а потым арышатавалі на 15 сутак. Разам з ім арыштавалі яго маці.





**Міколу Папеку, паэта, адправілі адбываць пакаранне на «хімію» за 400 кіламетраў ад дома, даўшы на зборы толькі 2 дні – тэрмінам на 2 гады за справу, празваную «карагоднай».**

**Кацярына Пытлева, журналістка, тэлевядоўца, паэтка, якая звольнілася з дзяржаўнага тэлебачання ў 2020 годзе і з’ехала за мяжу, дзе працуе над незалежным медыйным праектам Malanka Media, паведаміла пра вобшук 7 верасня ў мінскай кватэры, дзе яна жыла са сваёй сям’ёй. «Зламалі дзверы, парэзалі калонкі, малатком разбілі фігуркі вожыкаў, парэзалі вясельныя фота, распатрашылі вінілавую калекцыю і парассыпалі крупы і муку па ўсёй кватэры».**



**У Беларусі заблакавалі сайт «Радыё Рацыя». Доступ да рэсурсу абмежаваны на падставе прынятага рашэння Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.**

**На гэтым Радыё ўжо 15 год выходзяць дзясяткі праграмаў, прысвечаных беларускай гісторыі, музыцы, літаратуры.**

# 2. ЖЫЦЦЁ Ў НЯВОЛІ



**Ігару Банцэру, палітзняволенаму гарадзенскаму панк-музыку і актывісту, дадалі яшчэ 10 содняў ШІЗА. Такім чынам, агулам у штрафным ізалятары ён правядзе ўжо 40 дзён – у поўнай ізаляцыі і без перадач. Перад тым, як трапіць у штрафны ізалятар «за парушэнне рэжыму», на Ігара ўзмацніўся ціск з боку адміністрацыі «хіміі» ў Віцебску, дзе ён адбывае пакаранне. Гучалі адкрытыя пагрозы, што музыка будзе мець праблемы і паедзе на «зону». Знаёмыя звязваюць гэта з тым, што ён адмовіўся пісаць прашэнне аб памілаванні на імя Лукашэнкі.**

**Марыя Калеснікава і Максім Знак упершыню за год атрымалі спатканне а сваімі татамі.**





**Ад Наталлі Хершэ першы раз за чатыры месяцы прыйшоў ліст. Цяпер яна знаходзіцца ў памяшканні камернага тыпу – туды змяшчаюцца за парушэнне парадку адбывання пакарання. Наталля адчувае сябе няблага, харчаванне трошкі палепшылася, але бракуе садавіны і гародніны. Мае праблемы з валасамі – яны сталі танчэйшыя і выпадаюць – Наталля мяркуе, што справа ў недахопу жалеза. Яна чытае і піша скаргі на тое, з чым не згодная.**

# 3. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ І КУЛЬТУРНЫ АКТЫВІЗМ




**Мастацкае прысвячэнне Марыі Калеснікавай і Максіму Знаку ад cactuss.art.**

**У Беластоку з’явіцца нядзельная Школа беларускай традыцыі для дзетак.**

**У беларускай царкве ў бельгійскім Антвэрпэне пачалі працу над манументам памяці Вітольда Ашурка.**





**Беларускі музыка Алесь Ясінскі выканаў на баяне кампазіцыю «Муры».**

**Спектакль «Палаючыя дзверы» прадстаўляе магутнае выказванне Свабоднага тэатра ў салідарнасці з тымі, хто адмаўляецца маўчаць.**

Мурал, прысвечаны **Марыі Калеснікавай**, з’явіўся ў Санкт-Пецярбургу, але яго амаль адразу ж зафарбавалі.






У амерыканскім горадзе Уітан, штат Іллінойз, на **Фестывалі культур** беларусы Чыкага прадставілі беларускую экспазіцыю.

<u>Анлайн-выстава</u> «**Крык**» пра падзеі 2020 года і смелых людзях, дзякуючы якім сталі магчымымі перамены.





**Мастацкі праект Ігара Кашкурэвіча «Размова з духам камня» адкрыўся 10 верасня ў рамках фестывалю «Арт-Мінск-2021».**

**Вызначаны доўгі спіс прэтэндэнтаў на прэмію Гедройця 2021.**






**Да Дня народзінаў Святланы Ціханоўскай**



**Антаніна Сцебур, магістарка сацыялогіі, куратарка і даследчыца, аўтарка публікацый аб сучасным мастацтве, напісала тэкст – спробу разгледзець, якім чынам нармалізууецца рэпрэсіўны парадак і ўбачыць, які мы можам аднячасова аказваць падтрымку і працягваць выключаць кагосьці з публічнай прасторы, пазбаўляць яго ці яе голасу. Аўтарка тэкста падкрэслівае важнасць падобных меркаванняў, паколькі дзякуючы ім, фарміруецца крытычная оптыка, адчувальнасць у адносінах да прыгнечаных, чые галасы не чутныя, таму што ў іх больш няма сіл змагацца за сябе.**

**Праблема раскрываецца праз сітуацыю з фота выставай «Секвецныі», якая адбылася ў Музеі Заіра Азгура ў ліпені 2021 года: на ёй быў прадстаўлены фотаздымак Віктара Баразны – цяперашняга рэктара Акадэміі мастацтваў, пад чыім кіраўніцтвам адбываліся рэпрэсіі супраць выкладчыцкага складу і студэнцтва, але не было працаў Віктара Каленіка, фатографа, бацькі Марыі Каленік, палітзняволенай студэнткі Акадэміі мастацтваў, хаця фота абодвух маглі там быць, згодна з канцэпцыяй выставы. Антаніна Сцебур выказвае думку, што ўключэнне ў выставу Віктара Каленіка магло стаць актам салідарансці і клопату ў дачыненні да калегі, пазбаўленага голасу. Уключэнне працаў Віктара Баразны, які і без таго мае моцную, з пункту гледзішча ўлады, пазіцыю, а таксама доступ да грамадскіх пляцовак і медыя, але неўключэнне працаў Віктара Каленіка аўтарка тэксту бачыць актам цэнзуры да сённяйшняй палітычнай сітуацыі. Такім чынам адбываецца “заліпанне” ў існуючых рэпрэсіўных адносінах, нараджаецца несправядлівасць, адчужэнне, узмацняецца выключэнне выключаных.**

# 4. ГАЛАСЫ АСОБАЎ



**Таццяна Шчытцова, прафесарка ЕГУ, галоўная рэдактарка філасофска-культуралагічнага часопіса Topos, філосафка:**
***«Мы зараз маем справу з прапагандай, якая вырабляе вельмі перакручаную карціну свету. Гэтая карціна свету – прадукт свядомасці ці свядомасцяў, у якіх няма прасторы для ўяўлення. І гэта заканамерна, бо ізаляцыя, у якой апынуўся сёння рэжым, ператварае палітычную свядомасць у бункер. І ў гэтым бункеры ёсць толькі адна праграма – самарэабілітацыя пасля траўмы. Гэта ўсё, на што зараз накіраваны прапагандысцкі дыскурс. Гэта, вядома, іншая траўма, зусім не тая, якая ўдарыла па грамадстве і прывяла да масавых пратэстаў. Для апанентаў траўма заключаецца зусім у іншым – у адсутнасці падтрымкі большасці. І ў гэтым стане палітычная свядомасць можа прайграваць толькі праграму па самарэабілітацыі».***



**Уладзімір Някляеў, паэт, пісьменнік, грамадскі дзяяч, сябра Беларускага ПЭНа, пра прысуд Марыі Калеснікавай і Максіму Знаку:**
***«У крымінальнай справе Калеснікавай і Знака няма нічога крымінальнага і не можа быць, бо яны проста ўдзельнічалі ў выбарчай кампаніі згодна з Канстытуцыяй. Паколькі законы ў нас цяпер не дзейнічаюць, а дзейнічае права, так скажам, асабістага подпісу пад судовым вырашэннем, ніхто не чакаў, што будзе ўлічана, што людзі не парушалі законаў. Гэта сведчыць толькі пра адно — пра пасылы на Захад пра гатоўнасць рэжыму да нейкіх перамоў, зменаў у сваёй палітыцы ў адносінах да грамадства. Насамрэч рэжым не збіраецца гэтага рабіць і ўсяляк дэманструе, што грамадства будзе пад прэсам катаванняў і здзекаў да той пары, пакуль не прызнаюць праваты».***

# 5. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

*Магістранты кафедры сцэнічнага мастацтва Эстонскай акадэміі музыкі і тэатра ў лютым 2021 года паказалі пастаноўку «Абуджэнне Беларусі»*



*яны выбралі гэтую тэму дзеля свайго творчага праекта. Цяпер з'явілася відэа пастаноўкі з беларускімі субтытрамі.*



*Раман Віктара Марціновіча «Рэвалюцыю», забаронены ў Беларусі, паставяць у Deutsches Schauspielhaus ў Гамбургу ў красавіку 2022.*

*Працы беларускага мастака Алеся Пушкіна цяпер можна паглядзець на выставе Sztuka Polityczna («Палітычнае мастацтва») у Цэнтры сучаснага мастацтва «Уяздоўскі замак» у Варшаве, разам з*



*працамі 27 іншых вядомых мастакоў свету. Выстава арганізаваная дацкім мастацкім холам ЛЭСЁ ў супрацоўніцтве з Міністэрствам культуры Польшчы і іншымі культурнымі арганізацыямі.*



Фота з асабістай старонкі Юлі Цімафеевай

***Юля Цімафеева* і *Альгерд Бахарэвіч* удзельнічаюць у літаратурным фестывалі *The Festival of World Literature* у Заграбе, у анлайнавым фармаце. Напярэдадні фестываля інтэрв’ю з Юляй Цімафеевай выйшла ў баснійскім медыя Dnevnik.ba.**

***Беларускія арганізацыі Беласточчыны* прынялі заяву ў знак салідарнасці з МГА «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», а таксама выказалі пратэст супраць рэпрэсій і ліквідацыі шэрагу беларускіх НДА, такіх як Беларускі ПЭН-Цэнтр, Таварыства беларускай мовы, Беларуская Асацыяцыя Журналістаў, Саюз беларускіх пісменнікаў.**







**На вокладцы расейскай «*Новай газеты*» – ілюстрацыя, прысвечаная Марыі Калеснікавай і Максіму Знаку.**

**У Варшаве 7 верасня адбыўся паказ фільма «*Кураж*», прысвечаны Марыі Калеснікавай і Максіму Знаку.**

# 6. ПАВІНШУЙЦЕ ПАЛІТВЯЗНЯЎ З НАРОДЗІНАМІ




**У верасні 3 чалавекі, якія так ці інакш уключаныя ў працэс культурнага развіцця нашай краіны, будуць спраўляць свой дзень народзінаў за кратамі.**

**Гэта Максім Знак, юрыст, літаратар і музыка (4 верасня);**
**Аляксандр Васілевіч, менеджар культуры (14 верасня)**
**і Даніла Ганчароў, мастак па святле (27 верасня).**

**Адрасы, на якія можна дасылаць віншаванні:**

**Максіму Знаку і Аляксандру Васілевічу – СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2;**

**Даніле Ганчарову – Турма №4. 212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99А.**

